Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 20 510.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Пятніца, 12 чэрвеня 1998 г. № 62 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Ёсць шанц знайсці новых бацькоў

**Беларускі ўрад зноў дазволіў замежным грамадзянам усынаўляць беларускіх сіротаў, папярэдне распрацаваўшы новыя правілы гэтай працэдуры.**

Цяпер кожная замежная сям'я павінна атрымаць дазвол на прыёмнае дзіця ў Савеце міністраў. У Нацыянальным цэнтры ўсынаўлення не сказалі, хто канкрэтна будзе дазваляць, магчыма, сам прэзідэнт. Правілы прадугледжваюць строгі дзяржаўны кантроль за падборам прыёмных бацькоў за мяжой і за далейшым выхаваннем імі беларускіх дзяцей. Прэтэндаваць на сірот могуць грамадзяне толькі тых краінаў, з якімі Беларусь мае адпаведныя дамоўленасці. Нядаўна такое пагадненне падпісана з Італіяй. Цяпер у Нацыянальным цэнтры ўсынаўлення разглядаюцца 53 справы аб прыёмных бацьках з-за мяжы. Пераважна гэта італьянцы. Беларускіх дзяцей усынаўляюць таксама сем'і ў ФРГ, Швецыі і Даніі. Ніякіх кантактаў Нацыянальны цэнтр не падтрымлівае з арабскімі краінамі.

Як паведамілі нам у міністэрстве адукацыі, беларускі ўрад аддае замежным сем'ям толькі тых сірот, якія не маюць шанцаў знайсці прыёмных бацькоў на радзіме — па прычыне хваробы або інваліднасці.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

### Багданкевіч і Хадыка адправіліся за акіян

**Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч і намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка ўчора адляцелі ў Злучаныя Штаты Амерыкі.**

Яны накіраваліся туды па запрашэнні Міжнароднай лігі правоў чалавека і камісіі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе Кангрэса ЗША. У праграме 10-дзённага візіту — сустрэчы і «круглыя сталы» ў праваабарончых і даследчых арганізацыях. Цэнтральнай падзеяй візіту стане брыфінг для кангрэсменаў у камісіі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Ён прысвечаны становішчу ў Беларусі і адбудзецца 19 чэрвеня. Амерыканскія заканадаўцы будуць мець магчымасць з першых вуснаў даведацца пра сітуацыю ў нашай краіне і пазнаёміцца з поглядамі беларускай апазіцыі наконт перспектываў.

Дарэчы, Юрый Хадыка вернецца ў Беларусь акурат напярэдадні свайго юбілею — 23 чэрвеня шаноўнаму прафесару спаўняецца 60 гадоў.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

### Што здарылася на ЧАЭС?

**У сераду па Мінску пайшла пагалоска: «Узарваўся Чарнобыль».**

Цэлы дзень нам у рэдакцыю званілі самыя розныя людзі і пыталіся, ці праўда, што на ЧАЭС здарылася аварыя. Атрымаўшы першыя званкі, мы звязаліся з аддзелам экстрэмальных сітуацыяў Дзяржкамгідрамета. Менавіта сюды паступае ўся інфармацыя наконт радыяцыйнай абстаноўкі. Спецыялісты ўпэўнена заявілі нам, што ніякіх зменаў радыяцыйнай абстаноўкі на тэрыторыі Беларусі не зафіксавана, на Чарнобыльскай АЭС таксама звычайная сітуацыя. Пункты назірання за радыяцыйнай абстаноўкай ёсць па ўсёй Беларусі і працуюць яны круглыя суткі, пастаянна перадаючы інфармацыю ў Мінск. А таму, маўляў, калі б нешта здарылася, у сталіцы тут жа даведаліся б. Адкуль жа ўзнікла чутка? Хутчэй за ўсё «сігнал трывогі» пайшоў з дзіцячых садкоў. У некаторыя з іх паступіла каманда не выводзіць дзяцей на вуліцу з-за спякоты, што, мабыць, і нарадзіла чуткі пра аварыю на ЧАЭС. Але, дзякаваць Богу, гэта былі ўсяго толькі чуткі.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**



**КАНФЛІКТ**

# Прэзідэнт не можа ўжыцца з пасламі

**Толькі на адзін тыдзень адкладваецца высяленне паслоў і іхніх сем'яў з рэзідэнцыяў у пасёлку Драздзы.**



*Праз тыдзень вароты ў пасольскія рэзідэнцыі могуць зачыніць.*

Аб гэтым, як аб вялікай міласці, заявіў пазаўчора прэзідэнт Беларусі, якога журналісты прымусілі выказацца на гэтую тэму падчас сустрэчы з расійскім прэм'ерам. Больш тыдня беларускі кіраўнік чакаць не збіраецца, а сам ён з'язджае з Драздоў *«ужо сёння»* (мелася на ўвазе — у сераду).

Адказваючы на пытанні, беларускі прэзідэнт фактычна прагаварыўся наконт сапраўдных прычынаў высялення паслоў. *«Комплекс Драздзы — гэта рэзідэнцыя кіраўніка дзяржавы. А сёння за плотам, у 50-30-ці метрах ад прэзідэнта аказаліся замежныя прадстаўніцтвы»*, — абураўся Рыгоравіч. Лукашэнка, аднак, не патлумачыў, што дрэннага ў суседстве ягонай рэзідэнцыі з будынкамі замежных паслоў. Дарэчы, на момант выхаду нумара ў свет не было пацверджання, што Лукашэнка сапраўды пераехаў з Драздоў.

Амерыканскі пасол Дэніэл Спекхард з пасёлка таксама не з'ехаў. Пасол публічна папярэдзіў, што калі беларускі ўрад адключыць у ягонай рэзідэнцыі святло, газ і перакрые доступ аўтатранспарту, тое ж самае можа адбыцца з беларускай амбасадай у Вашынгтоне. Пасол Спекхард з сям'ёй працягвае жыць у Драздах і высяляцца пакуль не збіраецца. Ён заявіў, што ўсе свае дзеянні ў гэтым плане будзе ўзгадняць толькі з амерыканскім урадам.

Пазіцыю кіраўніка амерыканскай місіі найбольш дэманстратыўна падтрымліваюць пасльі Францыі, Італіі, Нямеччыны ды іншых заходніх краінаў. Пасол Францыі Бернар Фасье паведаміў, што ўжо прынята рашэнне аб адкліканні яго «для кансультацыяў» у Парыж у выпадку адключэння французскай рэзідэнцыі ад інжынерных сетак і камунікацыяў. З заявай, у якой выказваецца нязгода з патрабаваннем аб высяленні, выступіў МЗС Літоўскай Рэспублікі. Пазіцыю пратэстуючай часткі дыпкорпусу падтрымліваюць і польскія дыпламаты.

З 22-х прапісаных у Драздах пасольстваў пагадзіліся з беларускім ультыматумам і ўжо з'ехалі з пасёлка місіі Югаславіі, Балгарыі, Украіны, Арменіі і Грузіі. Цікавую пазіцыю заняло расійскае прадстаўніцтва. Пасол В.Лашчынін ва ўсіх інтэрв'ю падкрэслівае, што ягоная рэзідэнцыя — расійская маёмасць, у той час як рэзідэнцыі іншых амбасадараў у Драздах застаюцца ў юрысдыкцыі Беларусі. Таму, маўляў, патрабаванне з'ехаць на яго не распаўсюджваецца. Пакуль сп.Лашчынін аддаваць беларусам «сваю пядзь зямлі» не збіраецца.

Дзярждэпартамент Злучаных Штатаў ужо адрэагаваў на канфлікт. У сераду з спецыяльнай заявай на гэтую тэму выступіў прэс-сакратар Дзярждэпа сп.Рубін. Канфлікт з рэзідэнцыямі ён расцаніў як адзін з самых сур'ёзных з часоў заканчэння халоднай вайны, а дзеянні беларускіх уладаў назваў *«бязглуздай правакацыяй»*.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Дэлегацыя Бундэстага ў Мінску

**З 10 па 13 чэрвеня ў Мінску знаходзіцца дэлегацыя нямецкага Бундэстага ў складзе пяці дэпутатаў.**

Дэлегацыю ўзначальвае член Бундэстага Ута Цапф, намеснік старшыні парламенцкай групы «Беларусь» Бундэстага ФРГ. 11 і 12 чэрвеня дэлегацыя прыме ўдзел у арганізаванай фондам Фрыдрыха Эберта канферэнцыі на тэму «Роля дзяржавы ў Беларусі і Германіі». Для ўдзелу ў канферэнцыі запрошаныя прадстаўнікі ўрада, бізнесу і палітычных арганізацыяў. Акрамя таго, падчас візіту дэлегацыя правядзе шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі бюро АБСЕ ў Мінску, з прадстаўнікамі няўрадавых арганізацыяў і дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

Як адзначаецца ў прэс-рэлізе пасольства ФРГ, палітычная сітуацыя на Беларусі карэнным чынам змянілася пасля правядзення рэферэндуму ў лістападзе 1996 года. Парламенцкая група «Беларусь» Бундэстага ФРГ не падтрымлівае афіцыйных адносінаў з парламентам, які прызначаны прэзідэнтам Лукашэнкам. Аднак захоўваюць кантакты з выбранымі дэмакратычным шляхам парламентарыямі. Сваім візітам дэлегацыя падтрымлівае дэмакратычныя сілы ў Беларусі, гаворыцца ў прэс-рэлізе.

**Б.П.**

## Паломнікі збіраюцца ў Ватыкан

Некалькі соцень беларускіх каталікоў збіраюцца наведаць Ватыкан і ўбачыць Папу Рымскага. Паломніцтва адбудзецца ў кастрычніку, але запіс ахвотных заканчыўся на гэтым тыдні. Кожны з іх павінен быў адразу ўнесці 100 долараў, а потым давядзецца заплаціць яшчэ 200 непасрэдна перад паездкай. Вандроўка зойме тыдзень, а выезд паломнікаў плануецца з Брэста.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

## Тэлефон і паслугі пошты падаражэюць

**Міністэрства сувязі збіраецца ў чарговы раз павысіць тарыфы на свае паслугі.**

Па словах міністра Уладзіміра Ганчарэнкі, плануецца ўзняць на 20% плату за тэлефон, у тым ліку ўнутрыгарадскія і міжгародныя размовы па краіне. Гэтаксама ўзрасце плата за карыстанне гарадскімі таксафонамі і радыёкропкамі. Падаражэе перасылка лістоў і бандэроляў, перадача тэлеграмаў.

Міністэрства мае свае довады — маўляў, знізілася рэнтабельнасць, затраты тэлефоннай сеткі акупляюцца толькі на 76%, а прыбытковая паслуга практычна толькі адна — міжгародныя перагаворы. Аднак нагадаем, што тры месяцы назад сувязісты павялічылі свае тарыфы на 10%, цяпер чарговае павышэнне яшчэ на 20%, а мінімальная зарплата (і адпаведна заробкі большасці людзей і пенсіі) з пачатку года не змяніліся. Між тым тэлефон і пошта — гэта зусім не «прадметы раскошы», а паслугі, якімі карыстаюцца ўсе, і, манапольна павышаючы цэны, міністэрства б'е па кішэні найперш самых малазабяспечаных.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## У каталікоў – свята

У гэтую нядзелю каталікі адзначаюць свята Божага Цела. Ва ўсіх каталіцкіх парафіях краіны пройдуць урачыстыя набажэнствы. У Мінску свята пачнецца а 9-й гадзіне імшой у касцёле св.Роха. Адтуль працэсія вернікаў на чале з кардыналам Свёнтэкам, пройдзе па праспекце Скарыны да Чырвонага касцёла. Свята скончыцца набажэнствам каля Катэдральнага сабора на плошчы Свабоды.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Варшава рыхтуе пратэст

**Варшаўская пракуратура збіраецца звярнуцца ў польскае міністэрства юстыцыі з прапановай дэнансаваць дамову аб прававым супрацоўніцтве паміж Польшчай і Беларуссю.**

Прычынай такога рэзкага кроку сталі дзеянні міністэрства ўнутраных справаў Беларусі. Як вядома, Варшаўскі суд вырашыў не выдаваць бізнесмена Аляксандра Пупейку беларускім праваахоўным органам; гэтае рашэнне нікім не было абскарджанае і 9 чэрвеня канчаткова ўступіла ў законную сілу, а людзям, якія заплацілі за Пупейку грашовы заклад у 100.000 злотых (каля 30 тыс. долараў), гэтую суму вернуць. Пупейка абяцаў, што пасля суда сустрэнецца з беларускімі следчымі і перадасць ім некаторыя дакументы.

Прадстаўнікі МУС Беларусі на спатканне чамусьці не з'явіліся, пра што Пупейка і паведаміў польскаму боку. Варшаўская пракуратура была абураная, бо беларускія калегі ўвогуле нікога не папярэдзілі пра магчымую сустрэчу з Пупейкам (а гэта трактуецца як несанкцыяваныя следчыя дзеянні на тэрыторыі іншай дзяржавы). Акрамя таго, у палякаў не засталося ніякіх сумненняў, што працэс Пупейкі меў чыста палітычны характар: да гэтага часу беларуская праваахоўныя органы так і не звярнуліся ў польскую пракуратуру па тлумачэнні і дакументы. У выніку Беларусі пагражае чарговы міжнародны скандал.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**




*Летам мінулага года ліцэісты баранілі будынак ліцэя. А цяпер гаворка ідзе наогул пра ліквідацыю гэтай унікальнай навучальнай установы.*

## Кангрэс еўрапейскіх журналістаў

**Перад старшынёй дзяржкамітэта па друку М.Падгайным стаіць няпростая задача — выступіць на міжнародным форуме з дакладам «Свабода слова як права чалавека».**

Сёння ў Варшаве распачынае працу 36-ты кангрэс Асацыяцыі еўрапейскіх журналістаў, і Падгайны будзе ўзначальваць афіцыйную дэлегацыю Беларусі. Прафесійную журналістыку будуць прадстаўляць, у прыватнасці, кіраўнік агенцтва БелаПАН Алесь Ліпай і галоўны рэдактар газеты «Наша Ніва» Сяргей Дубавец.

Увогуле ж на кангрэс з'ехаліся 170 вядомых журналістаў і палітыкаў з усёй Еўропы. Паляякі праводзяць сімпозіум ва ўласцівым ім стылі — з размахам. Сярод ганаровых гасцей — генеральны сакратар *NATO* Хав'ер Салана і нобелеўскі лаўрэат Чэслаў Мілаш, адкрые кангрэс прэм'ер-міністр Польшчы, а вынікі будзе падводзіць прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

*ДЭФІЦЫТ*

## Дзе купіць лекі?

**У апошнія месяцы ў аптэках Гомеля стала значна менш пакупнікоў.**

Людзі не перасталі хварэць — хутчэй наадварот. Проста патрэбных лекаў у аптэках становіцца ўсё менш. Работнікі аптэк кажуць, што спіс лекаў за тыдзень можа скараціцца на 100 назваў. А за два апошнія месяцы колькасць медыкаментаў у продажы зменшылася на трэць, у многіх аптэках зніклі нават аспірын, но-шпа, сардэчныя кроплі і іншыя прэпараты першай неабходнасці.

Спецыялісты аптэчнага гандлю тлумачаць сітуацыю наступным чынам. Беларуская прамысловасць забяспечвае аптэкі толькі на 25%, астатняе — імпартуецца. Пасля таго, як стала вядома аб праекце прэзідэнцкага дэкрэта, які прадугледжвае нацыяналізацыю аптэк, многія фірмы спынілі закупку лекаў за мяжой і цяпер аддаюць у аптэкі толькі тое, што засталося на складах.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Наша эканоміка праз прызму піўнога шкла

**Апошнім часам у Магілёве даволі часта з крамаў знікае піва.**

Гэта можна было б патлумачыць гарачым надвор'ем і тым, што людзі разбіраюць папулярны напой. Але прычына больш празаічная — не хапае бутэлек. Па словах кіраўніка прадпрыемства «Магілёўтара» Генадзя Шабашова, пры мізэрных коштах бутэлек іх шлях натуральна пралягае ў Расію, бо ў суседняй дзяржаве піўныя бутэлькі каштуюць у 2,5 разы больш. У выніку, Магілёўскі піўны завод за месяц не далічваецца паловы бутэлек, што пайшлі ў гандаль.

У нас кошты на ўсе бутэлькі, як і на шмат што яшчэ, вызначае ўрад. А ў той жа Расіі — попыт. У Расіі, напрыклад, піўная бутэлька летам даражэйшая, чым узімку. На думку Генадзя Шабашова, «фіксаваная аплата — гэта глупства!»

**Іван ЗАСАДА**

# Ліцэй выходзіць на пікет

**Яшчэ больш напружанай стала сітуацыя вакол Беларускага гуманітарнага ліцэя, чуткі аб ліквідацыі якога ўскалыхнулі грамадскасць на мінулым тыдні.**

Бацькам ліцэістаў удалося дастаць у міністэрстве адукацыі праект пастановы аб далучэнні Беларускага гуманітарнага ліцэя да ліцэя пры Белдзяржуніверсітэце. Асабліва абураюцца бацькі тых вучняў, якія толькі што паступілі ў ліцэй, вытрымаўшы сур'ёзны конкурс. У «аб'яднаным» ліцэі навучанне будзе толькі двухгадовым, а ў Беларускім гуманітарным ліцэі дзеці вучыліся чатыры гады. У выніку першакурснікам давядзецца вяртацца ў школы. «Навучанне на роднай мове гарантаванае Канстытуцыяй, і калі нейкія чыноўнікі вырашылі пазбавіць нашых дзяцей гэтага права, мы будзем бараніцца ўсімі даступнымі нам метадамі», — заявілі бацькі ліцэістаў. Бацькоўскі камітэт ужо разаслаў звароты па розных інстанцыях, але, не асабліва разлічваючы на поспех «дыпламатычных крокаў», ліцэісты і іх бацькі рыхтуюцца да публічных акцыяў пратэсту. У прыватнасці, запланаваныя пікеты. Дазвол на іх правядзенне ўжо атрыманы. Першы пікет адбудзецца 16 чэрвеня з 12 да 14 і з 17 да 19 гадзінаў у Міхайлаўскім скверы (скрыжаванне вуліц Ленінградскай і Свярдлова).

Рыхтуюцца і крокі, накіраваныя на рэзананс у свеце. Ужо з'явіліся публікацыі ў польскім і расійскім друку, прагучалі рэпартажы на хвалях замежных радыёстанцыяў. Прадстаўнікі бацькоўскага камітэта лічаць, што летась менавіта міжнародны рэзананс дапамог захаваць будынак ліцэя, які збіралася забраць прэзідэнцкая адміністрацыя.

У панядзелак у ліцэі адбудзецца чарговы бацькоўскі сход, на які запрасілі віцэ-прэм'ера Уладзіміра Замяталіна: менавіта яму прыпісваецца аўтарства ідэі аб «злучэнні» двух ліцэяў. Ці прыйдзе палкоўнік на сход — невядома.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*P.S. Сёння мы друкуем заяву, якую перадалі ў СМІ навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэя. Спадзяемся, што ўлады прыслухаюцца да беларускіх ліцэістаў.*

# «Мы свой выбар зрабілі»

Мы, навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэя, пратэстуем супраць чарговых спробаў дзяржавы знішчыць нашую навучальную ўстанову, далучыўшы яе ў якасці «аддзялення» да ліцэя пры БДУ.

Наш ліцэй — адзіная ў Беларусі навучальная ўстанова перадуніверсітэцкага тыпу, дзе ўсе прадметы выкладаюцца па-беларуску і на высокім еўрапейскім узроўні. У выпадку далучэння да ліцэя БДУ і з падпарадкаваннем рэктарату БДУ мы страчваем самастойнасць, нам адводзіцца толькі сціплая роля «аддзялення».

Два ліцэі адрозніваюцца не толькі мовай выкладання. У нас розныя вучэбныя праграмы, складзеныя ў адпаведнасці са спецыфікай навучання ва ўстановах. У нашым ліцэі даўно склаўся калектыў высокапрафесійных выкладчыкаў.

Мы самі, разам са сваімі бацькамі, выбралі Беларускі ліцэй у якасці месца навучання, вытрымаўшы экзамены, каб атрымаць лепшую ў рэспубліцы гуманітарную беларускамоўную адукацыю і добра падрыхтавацца да паступлення ва універсітэты. Змена месца навучання парушыць прынцып сістэмнасці і пераемнасці, разарвуцца традыцыі, якія склаліся ў нашым ліцэі.

Кожны мае права выбіраць месца навучання. Мы свой выбар зрабілі, а прэстыж і папулярнасць нашага ліцэя расце з кожным годам. Пра гэта сведчыць конкурс — 5 чалавек на адно месца!

Калі дзяржава знішчыць наш ліцэй — гэта будзе злачынства не толькі супраць нас, навучэнцаў, але і супраць тых школяроў, якія ў будучым маглі б стаць нашымі калегамі па сапраўды беларускім ліцэі.

Мы ведаем, што праўда і закон на нашым баку. І мы будзем, як і летась, усімі законнымі сродкамі бараніць сваё права на атрыманне адукацыі на роднай мове і свой ліцэй. На абарону ліцэя аж да перамогі нас натхняюць словы беларускага асветніка і першадрукара Францішка Скарыны: «...пчолы, і ім падобныя, бароняць вуллі свае — таксама і людзі, дзе нарадзіліся і былі ўзгадаваныя воляю Божаю, да таго месца вялікую ласку маюць».

*Навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэя*
**Віктар МУХІН, Багдан АРЛОЎ, Марыя ШАХАЎЦОВА, Пятро САДОЎСКІ, Васіль ПЕСЕНЬКА, Аляксандр ДАМАРАД, Кірыл ІЛЬНІЦКІ, Марыя ФЕДЗЕЧКІНА, Віктар ІВАНОЎ, Алесь ЛЯХ, Максім ВОЙНІЧ, Вольга КАРПОВІЧ, Ціна МІЦКЕВІЧ, Наталля НЕМЦАВА, Аліна СУРСКОВА, Ганна АСІПОВІЧ** *і іншыя.*

# Бацькі і дзеці

## *Малады «патрыёт» Янчэўскі рапартуе ў прэзідэнцкую адміністрацыю*

**З пісьма Янчэўскага — Пашкевічу:** *«Уважаемый Иван Иванович! Докладываем Вам, что в течение третьей декады мая сего года во всех РК и ГК БПСМ состоятся отчетно-выборные конференции, на которых планируется подвести итоги работы территориальных организаций БПСМ, наметить планы на будущее, решить кадровые вопросы.*

*Полагая необходимым и целесообразным предварительно согласовывать подбор и расстановку кадров в БПСМ с Администрацией Президента Республики Беларусь и исполнительными органами власти на местах, мы просили бы Вас рекомендовать главам местных администраций оказать территориальным комитетам БПСМ организационно-техническую помощь при проведении отчетно-выборных конференций и принять участие в обсуждении возможных кандидатур на руководящие посты территориальных структур БПСМ.*

*С уважением, первый секретарь ЦК БПСМ В.В.Янчевский»*

Зразумела, што Іван Іванавіч не мог пакінуць без увагі такую важную справу і накіраваў ва ўсе аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам распараджэнне наступнага зместу: *«Оказать помощь БПСМ и принять участие в проведении отчетно-выборных конференций. Обращаю ваше внимание на необходимость согласования руководящих кадров организации»*. Будзем спадзявацца, што з кадрамі ў БПСМ цяпер усё ў парадку.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**




# Купі білет – і едзь спакойна

**У бліжэйшы час праезд у грамадскім транспарце Мінска даражэць не будзе. Сталічныя ўлады лічаць, што павышэнне тарыфаў не мае сэнсу.**

Сёння разавы квіток каштуе 2.600 рублёў, і больш пасажыры заплаціць папросту не могуць. Павысіш кошты — стане больш безбілетнікаў. Таму, як паведамілі журналістам на прэс-канферэнцыі ў Мінгарвыканкаме, цана застанецца ранейшай, але будзе ўзмоцнены кантроль, да безбілетнікаў будуць падыходзіць больш жорстка, у аўтобусах стане больш кандуктараў.

Гарадскія перавозкі — стратныя. За кошт продажу білетаў аплачваюцца толькі 30% выдаткаў, а астатняе з бюджэта. У пераліку на кожнага жыхара Мінска, такім чынам, Мінгарвыканкам даплачвае транспартнікам 80 тыс. рублёў у месяц.

І ўсё ж транспартная гаспадарка жыве ва ўмовах пастаяннага недахопу грошай. Тэхнікі купляецца зусім мала. Крыху палепшыла становішча ўвядзенне спецыяльнага транспартнага збору з прадпрыемстваў і фірмаў: дзякуючы яму ўдалося ў 1997 годзе набыць 89 аўтобусаў, а сёлета — яшчэ 64 машыны (56 з іх вытворчасці МАЗа). Да канца года плануецца набыць яшчэ 100-110 новых аўтобусаў; з'явяцца на вуліцах Мінска і больш за 100 новых тралейбусаў мінскай вытворчасці. Самыя вялікія праблемы з трамваямі: 1 чэшскі трамвай каштуе каля 300 тыс. долараў ЗША.

За суткі толькі аўтобусы «Мінскпасажыраўтатранса» перавозяць каля 800 тысячаў пасажыраў. Транспартнікі прызнаюць, што ў такіх раёнах Мінска як Сухарава і Шабаны да сённяшняга дня існуюць вялікія праблемы. І абяцаюць выправіць. Калі будуць грошы.

**Вераніка СТРОЕВА, Алесь САДОЎСКІ**

## *Радкі з лістоў*

**ПРЭЗІДЫУМ** Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прыняў нядаўна пастанову, дзе запісана: «считать утратившим силу постановление «О мероприятиях Академии наук по реализации Государственной программы развития белорусского языка и других национальных языков в Белорусской ССР», в части, касающейся введения зачета по белорусскому языку для аспирантов и соискателей». Вось і ўсё. Залік па інфарматыцы — абавязковы, экзамен па замежнай мове — таксама. А беларускую мову нашым навукоўцам, атрымліваецца, ведаць не трэба.

**Л.СЕРГІЕНКА**

**ПОХОЖЕ**, Великий алкогольный путь из Европы через Беларусь в Россию уже исчерпал себя как источник доходов. Потребовалось расширение интеграции. И вот с вступлением Таджикистана в таможенный союз завершилось создание Великого опиумного пути — от мест произрастания наркотического сырья в Афганистане, Таджикистане, Киргизии, Казахстане теперь уже без всяких таможенных барьеров через Россию в Беларусь и далее в Европу.

**Констанция КОСТЕВИЧ**, *Поставы*

# Юбілей, які не трэба хаваць

Шаноўная рэдакцыя! Хачу нагадаць чытачам СВАБОДЫ, што ў чэрвені гэтага года спаўняецца 55 гадоў з дня заснавання Саюза беларускай моладзі (СБМ). Гэта была маладзёжная нацыянальна-патрыятычная арганізацыя, створаная ў 1943 г.

Так, створаная на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі, у час Другой сусветнай вайны — тут няма чаго хаваць і няма чаго саромецца. Мы не мелі нічога агульнага з фашыстоўскай ідэалогіяй, а ахоплівае СБМ пераважна вучнёўскую моладзь ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў.

Я быў 16-гадовым юнаком, калі стаў сябрам саюза беларускай моладзі. Мы, навучэнцы 3-га курса Маладзечанскай гандлёва-адміністратыўнай школы, уступілі ў СБМ добраахвотна, ледзь не ўсім курсам.

Калі мы займелі (хто купіў, а хто і сам пашыў) адпаведную форму, то здаралася, што выходзілі разам на вуліцы горада — з песнямі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» або «Не пагаснуць зоркі ў небе...» На рынкавай плошчы Маладзечна вясною 1944 г., калі ўжо з Усходу даносіўся грукат гармат, мы складалі прысягу на вернасць Беларусі, ідэі барацьбы за лепшую долю сваёй Бацькаўшчыны. Я не памятаю якіх-небудзь антысавецкіх або прафашыстоўскіх выступленняў сярод нас. Мы трымаліся Статута СБМ і працавалі на выхаванне ў тагачаснай беларускай моладзі патрыятызму.

Да таго мы ніколі не мелі сваёй нацыянальнай арганізацыі. Ні да 1939 г. пры панскай Польшчы, ні пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Таму намагаліся выкарыстаць усе магчымасці для набыцця не толькі адпаведных ведаў у школе, але і сваёй сапраўднай, гістарычнай, доказнай нацыянальнай свядомасці.

Нямецкія акупанты былі занепакоеныя імклівым ростам арганізацыі, калі за няпоўны год у яе шэрагі ўліося больш за 15 тысячаў беларускіх юнакоў і дзяўчат, а паміж нас запанаваў патрыятычны ўздым. Даючы дазвол на ўтварэнне маладзёжнай арганізацыі, фашысты разлічвалі на падпарадкаванне беларускай моладзі сваёй ідэалогіі, разглядалі СБМ як магчымы рэзерв. Але не! Беларуская моладзь не прадавала сваю Бацькаўшчыну. І нават савецкае камуністычнае кіраўніцтва вымушанае было запісаць у энцыклапедыі, што *«спробы гітлераўцаў справакаваць беларускую моладзь на ўзброеную барацьбу супраць свайго народа правaліліся»* (БелСЭ, т.IX, с.396).

І сёння нацыянальная свядомасць, якая сфармавалася ў Саюзе беларускай моладзі, абавязвае мяне быць такім, які я ёсць.

Таму 55-я ўгодкі СБМ лічу нашым святам, з якім і віншую ўсіх ветэранаў гэтай арганізацыі — як на Бацькаўшчыне, так і ў замежжы.

**Кастусь ХАРАШЭВІЧ**, *мастак, былы сябра СБМ, г.Маладзечна*

# Пазьняк всё-таки был прав

## *В ответ на письмо «Зенон, ты не прав»*

Мне тоже 29 лет, как и автору письма Павлу Рубанову, только живу я не в Минске, а в Новополоцке. Именно его письмо, а точнее совершенно поверхностный взгляд на вещи, заставили меня написать.

Спешу оговориться, я тоже нормальный человек, но смотрю на многое иначе. Вся наша оппозиция, Павел, это по большому счету одно недоразумение. На фоне этой каши именно БНФ был, есть и скорее всего еще долго будет оставаться той силой, которая еще поддерживает веру, что не все потеряно. А Лебедько, Гончар, Чигирь и прочие, которых вы пытаетесь защитить от справедливой критики, еще те господа-товарищи. Я не отказываю им в здравом уме, профессионализме, но в чистоплотности их устремлений я давно сомневаюсь. Эти господа своей вины не видят и не помнят. А я помню (и другие люди тоже) их усилия по выводу А.Г. в президенты, их речи, их потоки грязи в адрес БНФ и остальных «недобитых националистов». Они говорят, что не разглядели как следует Лукашенко. Тогда они просто слепцы и им не место в лидерах нации. Но я склонен думать, что они все видели и знали, вот только не предполагали, что их возьмут и выкинут вон. А теперь они стали чуть ли не движущей силой прогресса в Беларуси, барометром ее демократичности. Чудо, да и только! Неужели Винникова не знала, кому служит, или Леонов? Знали! Да вот с совестью нелады, да и амбиции подвели.

Говоря о России, вы тоже заблуждаетесь. Не было и не будет в России власти, которая желала бы нашей самостоятельности и процветания. Столетия это доказали. История — это своего рода свод ошибок и достижений, она учит разумных. Там кровью наших предков написано, чего нам стоило это «братство». Но это не значит, что вас, Павел, кто-то заставляет проснуться поутру и узнать, что мы стали заклятыми врагами с Москвой. Но поймите меня: я просто хочу жить в своем доме и дружить с соседями на взаимовыгодных основах. Но вот если сосед норовит наследить у тебя в доме, то стоит ограничить с ним контакты. А Россия уже достаточно натоптала у нас (и не только у нас). Русский народ для меня такие же славяне, как и поляки, чехи, болгары, украинцы. Я уважаю права и достоинства этого народа, как и других народов. Но строить славянофашистское православное государство не желаю.

Вы говорите о Белорусской Народной Республике как о нереальной мечте? Но это светлая мечта, это маяк, который должен повести нас вперед. Ведь у Лукашенко есть своя черная мечта — реставрация советской империи. Что он и делает изо дня в день, ввергая наш народ все глубже в бездну, все больше и больше делая из этого народа стадо. Так пусть лучше мечта БНР, чем назад в дерьмо и страх.

В одном я с вами согласен: если Пазьняк хочет быть действительно лидером нации, то пороть столь бесцеремонно правду-матку со всех трибун нельзя. И еще пожелал бы БНФ более активно налаживать работу на местах. Например, у нас в Новополоцке тишь да гладь. А жаль. Минск — не вся Беларусь.

**Михаил ЛЫСЕВИЧ**, *г.Новополоцк*

# О правах водительских и гражданских

Уважаемая редакция! Понимаю, что проблема получения водительских прав на сегодня далеко не самая злободневная. Но вся наша жизнь состоит из мелочей, и водительское удостоверение — одна из составляющих моих гражданских прав.

В августе прошлого года я зашел в одну автошколу у нас в Солигорске — поинтересовался, как можно записаться на курсы. Мне ответили, что пока прием не ведется (очередь), но предложили оставить конверт. Я так и сделал. И вот не прошло и года, как конверт я обнаружил уже в своем почтовом ящике.

Из вскрытого конверта выпала узенькая полоска бумаги с неровными краями. Бледная ксерокопия машинописного текста сообщала: «Приглашаетесь такого-то в 19:30. Иметь при себе: **1.** Паспорт; **2.** 3.000.000 руб. Администрация». Вот так — ни «здрасте» ни «до свидания». Ни «уважаемый господин», ни хотя бы «товарищ Дубровский». Даже просто «Вы» (пусть бы и с маленькой буквы) не написали. А «иметь при себе» — это уже стиль наших «правоохранительных» органов.

Ничего удивительного. Такие конторы недостатка в клиентах не испытывают. Никуда те клиенты не денутся — придут, как миленькие. И по первому требованию, не зная толком, за что и почему, принесут свои кровные три миллиона. Причем ведь понимают, что три «лимона» — это так, пустяки, мелочь, червячка заморить.

Ну ладно: собирается человек покупать машину — должен иметь серьезные деньги, и 10 миллионов за обучение — не такая уж и сумма. Но какие услуги я получу за эти деньги? Если разобраться — практически никаких. От знакомых, которые прошли через подобные школы, знаю, что главному — вождению автомобиля — там фактически не учат. Несколько жалких часов, отводимых на это по программе, редко когда используются полноценно. Обычно у инструктора находится масса причин урезать и без того скудный практический паек. В общем — бензин, оплаченный «учеником», экономится, а по-настоящему постигать уроки вождения ему приходится в частном порядке, в свободное от курсов время.

Да и к чему мне, окончившему в свое время технический вуз с отличием, сидеть за партой вместе, например, с домохозяйкой, за плечами которой — лишь неполная средняя школа? Несколько десятков элементарных правил и дорожных знаков я без особых усилий выучу в течение недели, причем без всяких инструкторов и преподавателей. Вот недавно начальник федеральной ГАИ России заявил, что каждый россиянин вправе сдавать водительский экзамен экстерном, без посещения автошколы. А у нас в Солигорске со мной на эту тему даже отказались разговаривать.

Нет смысла сравнивать «здешние» реалии с «ихними». Даже в России к элементарным гражданским правам относятся с большим уважением.

**В.ДУБРОВСКИЙ**, *Солигорск*

# Когда «жулью» жить хорошо

В Минске недавно завершился II съезд предпринимателей Беларуси. Однако я не увидел объективной информации о прошедшем съезде в государственных СМИ. Несмотря на официальные заверения властей о любви к предпринимателям, на съезде не присутствовали ни премьер-министр, ни президент. За редким исключением делегаты на съезд назначались властью на местах. Так было, например, у нас в Гродно. Правда, вопреки воле властей и благодаря активности профсоюза, предпринимателям все-таки удалось переизбрать четверых назначенных вертикалью делегатов.

В повестке дня съезда стоял актуальный вопрос о состоянии развития предпринимательства в Беларуси. Мнение делегатов съезда и выступающих резко отличалось от официальной точки зрения о том, что якобы у нас в этой области что-то развивается. Меня приятно удивил доклад министра предпринимательства Александра Сазонова На мой взгляд, А.Сазонов один из редких здравомыслящих членов правительства, а в руководимом им министерстве, кажется, собрались люди с передовыми идеями. К сожалению, полномочия министра очень ограничены, и он сам сетовал на то, что его «не понимают ни в правительстве, ни в парламенте». Но в этом нет ничего удивительного, потому что люди, находящиеся сейчас у руля власти, в своем большинстве имеют достаточно смутное представление о предпринимательстве.

В ходе съезда часть назначенных властями делегатов откровенно скучала, а многие выступающие вышли на трибуну только «ради галочки», из-за их пустой говорильни не смогли выступить многие желающие.

Съезд, боясь разгневать власть имущих, принял — без обсуждения! — оригинальное решение, в котором просит президента выполнять возложенные на него Конституцией обязанности(?!). Я бы коротко выразил решение съезда так: «Господин президент, пожалуйста, хоть иногда, в перерывах между вашими спортивными мероприятиями, выполняйте ваши конституционные обязанности».

Подводя итоги съезда, можно сделать вывод о том, что предприниматели смогли стать важной экономической и политической силой в нашей стране, а руководство республики боится независимых объединений предпринимателей. В то же время, съезд не решил многих стоящих перед предпринимателями задач. Путь нашей страны по-прежнему лежит в колхозное никуда. На фоне грозных речей о борьбе с коррупцией взятничество приобрело повальный характер. Теперь взятки не берут только самые ленивые чиновники. По нашим данным, около 90% предпринимателей от 1 до 20 раз в год дают в различной форме взятки государственным служащим. А если заявить о вымогании взятки, то предпринимателя «задушат» проверками и сумасшедшими штрафами.

Предпринимателям и дальше придется самим защищать свои права, и для этого им придется вступать в ряды профсоюзов и партий, стоящих за рыночные преобразования в стране, а также участвовать в выборах всех уровней. В любой стране всем честным людям хорошо живется и дышится только тогда, когда власть находится в руках профессионалов. Когда власть в руках у популистов и авантюристов, тогда хорошо жить можно только жулью.

**Валерий ЛЕВОНЕВСКИЙ**, *делегат II съезда предпринимателей*



*Молодые жулики пока только учатся...*

# Без цвёрдай рукі пракурор прападзе

Шаноўная рэдакцыя! Прачытала ў газеце «Зямля і людзі» выказванне пракурора Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці Анатоля Малахоўскага:

«В системе бывшего Советского Союза был период расцвета демократии, защиты гражданина и личности от любых посягательств. Это было время гарантированной безопасности людей в любой точке СССР, и в любой ситуации... Работа самих правоохранительных органов была чётче, в тесном контакте с населением. Ими руководили органы партии. Сейчас же некоторые органы заявляют свою самостоятельность. Вспоминая прошлое, сопоставляя его с настоящим, тем не менее мы должны бороться с негативными явлениями как никогда жёстче и требовательнее... Много ещё надо нам работать. Сегодня общество, как никогда, нуждается в твёрдой руке государства в наведении порядка и дисциплины. На самотёк, самосознание народа эти вопросы пускать нельзя».

І які гэта год у Касцюковічах?

**Ганна БАРАНОЎСКАЯ**, *г.Касцюковічы*

# Заразныя хваробы «старэйшага брата»

## *Чарговы фінансавы крызіс у Расіі ў каторы раз абвастрае праблему празмернай залежнасці беларускай эканомікі ад расійскай*

**Фінансавы крызіс у Расіі пачаўся некалькі тыдняў таму, і пачалося ўсё з аўкцыёна акцыяў кампаніі «Роснефть», вакол якой завязаліся інтарэсы буйнейшых расійскіх ФПГ. Аўкцыён прызналі несапраўдным, і на другі дзень пачаўся абвал на валютным рынку і рынку дзяржаўных каштоўных папер. Расійскі рубель на пазабіржавым рынку вылецеў за межы ўсталяванага ўрадам «калідора», а яшчэ праз дзень паляцелі ўніз і акцыі буйнейшых расійскіх кампаніяў.**

Прычынай крызісу нібыта сталі дзеянні спекулянтаў, якія падарвалі «фінансавую стабільнасць» краіны. Расійскае кіраўніцтва, трэба аддаць яму належнае, не стала лавіць і садзіць у турмы тых «спекулянтаў», а пачало лячыць саму хваробу. Вялікі бюджэтны дэфіцыт робіць расійскую фінансавую сістэму няўстойлівай, і ў такіх умовах незадаволеныя фінансава-прамысловыя групы могуць паставіць краіну на калені дзеля выканання нейкіх сваіх мэтаў.

Цяпер становішча з большага стабілізавалася: урад заявіў, што скароціць бюджэтны дэфіцыт, а Міжнародны валютны фонд паабяцаў падтрымку. Тым не менш глыбінныя прычыны не зліквідаваныя, таму падобныя крызісныя сітуацыі могуць (і, паводле некаторых прагнозаў, будуць) узнікаць яшчэ не раз.

### У адной звязцы

На думку беларускіх экспертаў — як дзяржаўных, так і незалежных (і гэта, бадай, адзінае пытанне, дзе яны маюць згоду) — наша эканоміка за апошнія два-тры гады стала яшчэ больш залежаць ад Расіі. Беларускі эканамічны рост, на думку спецыялістаў Сусветнага банка і МВФ, стаў магчымым не толькі за кошт друкарскага станка, а перш за ўсё за кошт спрыяльнай кан'юнктуры ўсходняга рынку. У 1997 г. рост экспарту нашых тавараў у Расію склаў каля 50%.

Але суадноснага росту экспарту ў іншыя краіны СНД і тым больш краіны далёкага замежжа не адбылося. Наадварот, доля гандлю з краінамі далёкага замежжа ў агульнай суме тавараабароту скарацілася. Калі ў 1996 г. на краіны далёкага замежжа прыходзілася 33,4% нашага экспарту, то ў 1997 годзе — толькі 26,9%.



*«Беларусь так часта наступае на граблі расійскай эканомікі, што ўжо прывыкла да гэтага...»*
*(Карыкатура з часопіса «Итоги»)*

Атрымліваецца, што расійскі рынак з кожным годам становіцца ўсё больш важным і неабходным для беларускіх прадпрыемстваў. І гэта кепскі знак: нашыя дырэктары не маюць стымулу да павышэння якасці прадукцыі, каб выходзіць на цяжкі, але больш стабільны і даходны рынак заходніх краінаў.

У выніку эканоміка зацыклівaецца на расійскім рынку. І праблемы Расіі пачынаюць моцна адбівацца на нас. Акрамя таго, магчымая эканамічная блакада з боку Расіі будзе для нас больш балючай, чым для Латвіі.

Эканамічная залежнасць вырасла да памераў, калі яна пагражае палітычнай бяспецы.

### Праявы эпідэміі

Цяжка з дакладнасцю падлічыць да рубля, якія страты прыносіць кожны расійскі крызіс Беларусі. Але напрамкі вядомыя.

Найбольш заўважны — запазычанасць за энерганосьбіты. Чарговы этап барацьбы за збор падаткаў у Расіі кранае перш за ўсё найбуйнейшых неплацельшчыкаў, да ліку якіх адносіцца і «Газпром». Калі грошы патрабуюць з «Газпрома» — ён пачынае тармашыць сваіх даўжнікоў. Малдове ўжо скарацілі пастаўку газу на 50%. На чарзе — Беларусь.

Ускосна расійскі крызіс паслабляе і беларускі рубель. Укладваць грошы ў каштоўныя паперы вельмі выгадна, і калі ў суседняй краіне прапануюць атрымаць да 100% даходу, то капіталы хутка пераплываюць туды.

Але самай сур'ёзнай праблемай можа стаць скарачэнне экспарту ў Расію. Ва ўмовах фінансавага крызісу зніжаецца плацежаздольнасць расійскіх пакупнікоў. Зніжэнне попыту з боку Расіі азначае для беларускіх прадпрыемстваў скарачэнне вытворчасці, бо хутка пераарыентавацца на іншыя рынкі яны не здолеюць.

А калі менш даходаў у нашых прадпрыемстваў — менш пакладзе ў сваю кішэню і сярэдні беларус.

**Алесь САДОЎСКІ**

# «Наступная вайна»

## *Трэцяя сусветная вайна можа пачацца 15 сакавіка 2002 года: расійскія войскі з тэрыторыі Беларусі нападуць на Польшчу*

**Такім бачыць адзін са сцэнарыяў новай вайны былы міністр абароны ЗША Каспар Ўайнбергер. Нядаўна ён выдаў у Амерыцы кнігу пад назваю «Наступная вайна», у якой сцвярджае, што ядзерная вайна ў Еўропе можа пачацца пасля прыходу да ўлады ў Расіі скрайніх нацыяналістаў.**



*У 1968 годзе на вуліцы Прагі заехалі савецкія танкі. У ходзе наступнай сусветнай вайны, прагназуе Каспар Ўайнбергер, танкаў у Чэхіі не будзе. Краіну знішчаць пяць ракетных ядзерных удараў з Расіі.*

### Народны правадыр

Галоўны герой кнігі Уайнбергера — нацыянал-патрыёт Аляксандр Карашчук. Ён перамагае ў Расіі на прэзідэнцкіх выбарах 2000 года. «Былы генерал, любімец арміі, дэмагог і папуліст, ён меў суровую харызматычную знешнасць, і гэта вельмі падабалася простым рускім людзям. Стомленыя гадамі эканамічнай і палітычнай неразбярыхі, расіяне хацелі лідэра, які кіраваў бы «жалезнай рукой», — прагназуе расійскую будучыню Ўайнбергер. Ён не называе рэальнае прозвішча сучаснага расійскага палітыка, які прэтэндуе на ролю «жалезнага» правадыра, але дае намёк, што палітычную кар'еру ён пачынае з губернатарства ў Сібіры.

Прыйшоўшы да ўлады, у 2001 годзе новы расійскі прэзідэнт Карашчук абвяшчае аб'яднанне Расіі, Беларусі і Украіны ў адну дзяржаву. Каспар Ўайнбергер не тлумачыць падрабязна механізм гэтай інтэграцыі, але піша, што аб'яднанне дало магчымасць Карашчуку дасягнуць вялікай ваеннай перавагі над Захадам. Рускія ствараюць над сваёй тэрыторыяй такі шчыт супрацьпаветранай абароны, які не могуць прабіць ракеты з ядзернымі боегалоўкамі. І вось Карашчук пачынае наступ на Еўропу.

### Ялта–2

15 сакавіка 2002 года ўрад Польшчы і афіцэры польскага Генеральнага штаба праводзяць нараду ў рэзідэнцыі пад Беластокам. Польскія ўлады занепакоеныя падазронымі перамяшчэннямі расійскіх войскаў у Беларусі. Апоўначы ў штаб урываецца атрад расійскага спецназа, усё вышэйшае кіраўніцтва Польшчы забітае.

Ужо на наступны дзень, піша Ўайнбергер, расійскія танкавыя дывізіі пераходзяць Буг. Камандаванне польскім войскам бяруць на сябе малады намеснік міністра абароны Рачкевіч і генерал Крыніцкі, якія засталіся жывымі, бо ў беластоцкай нарадзе не ўдзельнічалі. Аднак Польшчы, хоць яна ўжо на гэты час паўнапраўны член *NATO*, даводзіцца абараняцца ўласнымі сіламі. Рэч у тым, што на тэрыторыі Польшчы няма вайсковых злучэнняў іншых краінаў Паўночна-Атлантычнага саюза. Польская армія, хоць і аказвае моцнае супраціўленне акупантам, не можа стрымаць расійскія танкі, якія імкліва набліжаюцца да Варшавы. Паралельна рускія займаюць Вільню, і незалежная Літва перастае існаваць. Масква абвяшчае аб устанаўленні «гістарычнай справядлівасці на спрадвечна рускіх землях Прыбалтыкі».

На другі дзень вайны французскім парашутыстам удаецца высадзіцца паміж Познанню і Варшавай, але расійскі дыктатар дае загад прымяніць супраць іх хімічную зброю — і французскі дэсант знішчаны за некалькі секундаў. Пушчаная ў адказ французамі ядзерная ракета не здолела прабіцца праз расійскі супрацьпаветраны шчыт, якому прэзідэнт Карашчук даў назву «Магічны ланцуг».

Урады заходніх краінаў зразумелі, што яны не могуць абараніць Польшчу, і аддаюць загад войскам *NATO* вяртацца дадому. Рускія поўнасцю акупіруюць Варшаву, а польскі ўрад перабіраецца ў Шчэцін. «Не разлічвайце на дапамогу з-за мяжы, — гаворыць сваім штабным афіцэрам польскі генерал. — Захад нас прадаў другі раз, як гэта ўжо было ў 1945 г. у Ялце».

Польшча яшчэ супраціўляецца прыкладна месяц, але 11 красавіка рускія канчаткова захопліваюць усю тэрыторыю краіны.

Праз два тыдні пасля захопу Польшчы Расія з дапамогай ядзернай зброі заваёўвае Чэхію. У Крамлі Карашчук падымае бакалы за перамогу расійскай зброі разам з прэзідэнтам Балгарыі, які хутка зразумеў, на чым баку будзе перамога, і падпісаў з Масквой дамову аб вайсковым саюзе.

### Далей на Захад

Прагнозы Ўайнбергера змрочныя. Расія, сп'янелая ад хуткіх вайсковых поспехаў, патрабуе каб Амерыка неадкладна вывела ўсе свае войскі з Еўропы. Вашынгтон не супраціўляецца, і праз пару тыдняў расійскія дывізіі пераходзяць нямецкую мяжу. Брытанская армія спрабуе стрымаць наступ, але рускія пасылаюць пяць ядзерных ракет — і ў канцы траўня канцлер ФРГ падпісвае ў Маскве акт аб канчатковай і безагаворачнай капітуляцыі.

Расійская армія святкуе перамогу ў Берліне, а перапалоханы прэзідэнт Францыі, не чакаючы пакуль танкі акупантаў праедуць па Елісейскіх палях, сам прапануе Расіі падпісаць дамову аб партнёрстве.

### Амерыка-вызваліцель

Адзіны паратунак для акупаванай Еўропы Ўайнбергер бачыць у магутнасці Злучаных Штатаў.

Ужо пасля нападу Расіі на Польшчу амерыканскія навукоўцы пачынаюць распрацоўваць сістэму ўласнай супрацьракетнай абароны. У гэты ж час ЦРУ і спецслужбы іншых неакупаваных еўрапейскіх краінаў арганізоўваюць у Польшчы, Чэхіі і Нямеччыне рух Супраціўлення — накшталт таго, які быў у Францыі ў часы Другой сусветнай вайны. Расійскі дыктатар, захапіўшы палову Еўропы, цалкам задаволены тым, што акупаваныя краіны павінны штогод выплачваць яму кантрыбуцыю ў памеры 100 мільярдаў долараў, таму спыняе далейшы наступ на Захад.

Праз некалькі гадоў амерыканцы ствараюць свой супрацьракетны шчыт, які — для Ўайнбергера гэта несумненна — нашмат лепшы за расійскі. У 2008 годзе Амерыка ставіць перад Расіяй ультыматум. «Крамлёўскі драпежнік» адразу разумее, што ЗША яму не перамагчы, і вымушаны вывесці ўсе свае войскі з акупаваных краінаў.

Аднак і пасля заканчэння вайны асноўныя сілы расійскага войска застаюцца на тэрыторыі Беларусі і пастаянна праводзяць розныя манеўры і вучэнні — «каб Еўропа баялася».

Вось такую змрочную будучыню для Еўропы з «хэпіэндам» у стылі галівудскіх фільмаў, прадказвае адстаўны амерыканскі міністр абароны. Акрамя гэтага, Уайнбергер у сваі кнізе апісвае яшчэ чатыры магчымыя варыянты глабальных узброеных канфліктаў: на Блізкім Ўсходзе, у Кітаі і Карэі, у Паўднёва-Усходняй Азіі і Мексіцы. Можна было б расцэньваць гэтую кнігу як узор «палітычнай фантастыкі» — на Захадзе такі жанр цяпер у модзе. Напрыклад, некалькі гадоў таму вялікім поспехам карыстаўся раман англійскага журналіста Ф.Фарсайта «Ікона» пра тое, як адважны агент ЦРУ сарваў планы прыходу да ўлады ў Маскве расійскага фашыста.

Але на гэты раз прагнозы Ўайнбергера выклікалі цікавасць у Пентагоне, а таксама ў ведамствах іншых краінаў *NATO*. Нягледзячы на тое, што такое развіццё падзеяў выглядае сёння малаверагодным, многія вайсковыя спецыялісты бачаць у прагнозах Ўайнбергера «рацыянальнае зерне». Уайнбергер, калі займаў пасаду міністра абароны ЗША, сам фармаваў ваенную палітыку, і яго думка ў абароннай галіне лічыцца вельмі аўтарытэтнай. Ягоную занепакоенасць падзяляе і былы прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Маргарэт Тэтчэр, якая напісала ў прадмове да кнігі Ўайнбергера: «Адным са спосабаў падтрымання міру на свеце з'яўляецца ўпэўненасць, што мірна настроеныя дэмакратычныя дзяржавы маюць вайсковую перавагу над патэнцыйнымі авантурыстамі».

*Падрыхтаваў*
**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

***ДАВЕДКА:** Каспар Ўайнбергер у 80-я гады быў міністрам абароны ЗША ў адміністрацыі прэзідэнта Рональда Рэйгана. Як і Рэйган, Уайнбергер выступаў за павелічэнне выдаткаў на абарону, бо лічыў, што перамагчы Маскву можна толькі ўцягваючы Савецкі Саюз у імклівую гонку ўзбраенняў. Пакінуў прэзідэнцкую адміністрацыю ў 1987 г. Цяпер 81-гадовы Ўайнбергер з'яўляецца прэзідэнтам выдавецкага дома і ўладальнікам уплывовага эканамічнага часопіса Forbes. Ўайнбергер лічыцца адным з самых аўтарытэтных аналітыкаў у галіне міжнароднай бяспекі.*

